**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 21 (789) 21 траўня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





**Пасяўная! Радуе, што ў гэты цяжкі эканамічны перыяд усё навокал яшчэ рухаецца, працуе – на палях сельскагаспадарчая тэхніка, якая аборвае, сее! Будзем з ураджаем!** *Фота Ул. Скрабатуна.*











## Шукаем сведкаў злачынства

У вытворчасці Глыбоцкага раённага аддзела Следчага камітэта знаходзіцца крымінальная справа №15123080067, узбуджаная 08.04.2015 па 4.1 арт.205 КК Рэспублікі Беларусь па факце крадзяжу маёмасці з аўтамабіля, які стаяў на ўзбочыне дарогі недалёка ад в. Марцэбыліна Глыбоцкага раёна.

**Інфармацыя аб злачынстве:**

У перыяд часу, у які здзейснена – з 8.00 гадзін 28.03.2015 па 12.00 гадзін 29.03.2015;

Месца здзяйснення злачынства – скрыжаванне аўтадарог, якія ідуць з в.Станулі у в.Мярэцкія і з в.Марцэбыліна ў в.Мярэцкія Глыбоцкага раёна, недалёка ад в.Марцэбыліна;

Акалічнасці злачынства – крадзеж маёмасці з аўтамабіля Пежо-605 цёмна-фіялетавага колеру.

Сведкаў і асобаў, якім вядомыя якія-небудзь акалічнасці здзейсненага злачынства, прашу звяртацца ў Глыбоцкі раённы аддзел Следчага камітэта па адрасе: г.Глыбокае, вул.Леніна, в.95, каб.№6 ці патэлефанаваць па нумар: 5-04-07.

Загадзя ўдзячны за супрацоўніцтва, з павагай,

**Ю .В. Лаўрыновіч,**
*следчы СА Глыбоцкага РАСК капітан юстыцыі*





**Падача абвестак па тэлефоне № 166**









ISSN 2077-8023



### Верхнядзвінскі раён

# І музей, і абноўлены сквер

■ Станіслаў Раманчук.

**Прайшоўшыя дзесяцігоддзі не змаглі на нашай зямлі сцерці суровую памяць і праўду аб перажытым у гады мінулай вайны.**

Адным з самых моцна пацярпелых у краіне стаў тады Верхнядзвінскі раён, бо тут нацысты знішчылі палову мясцовага насельніцтва. У гэтай мясцовасці ў полымі пажараў карнікамі былі спалены 426 вёсак і хутароў, з якіх 186 так і не аднавіліся для новага жыцця. Штогод 9 мая райцэнтр прымаў дарагіх гасцей ветэранаў, якія памятаюць пра тыя часы суровых выпрабаванняў. Сёлета яны сталі першымі наведвальнікамі новага раённага краязнаўчага музея, які адкрыўся нарэшце ў адным з гістарычных будынкаў горада. Экспазіцыя пра перажытае, пра карныя экспедыцыі гітлераўцаў і Расіцкую трагедыю стала адной з цэнтральных у новым музеі. Як і ў іншых мясцінах, падчас нядаўніх урачыстасцей з нагоды 70-годдзя Вялікай Перамогі, верхнядзвінцы схілілі галовы перад памяццю соцень, тысяч сваіх землякоў, воінаў і партызан, якія змагаліся з лютым ворагам. Па цэнтральнай вуліцы горада спачатку прайшла калона моладзі "Бессмяротны полк" і больш ста юнакоў і дзяўчат пранеслі фотапартрэты сваіх родных і блізкіх, якія не дажылі да сённяшніх дзён. У абноўленым і папрыгажэўшым гарадскім скверы, дзе знаходзіцца адно з воінскіх пахаванняў, прайшоў хвалюючы мітынг-рэквіем. Таксама па ўсім раёне за пару дзён былі паўсюдна ўскладзены вянкі і кветкі і да іншых брацкіх магіл, адзіночных пахаванняў і ля крыжоў на месцах спаленых вёсак. Сёлета ў райцэнтры быў закладзены і новы парк, а ў шэрагу школ пасадзілі маладыя фруктовыя сады.

### Браслаўскі раён

# На граніцы спынілі ... танк

■ Чэслаў Якубовіч.

**Якія толькі тавары і грузы не перамяшчаюцца апошнім часам праз беларускую граніцу.**

Днямі на пунце пропуску з Латвіяй "Урбаны", што ў Браслаўскім раёне, зноў спынілі фуру з грознай баявой машынай, савецкім манеўраным танкам Т-34. Гэту тэхніку, якая ў гады вайны сур'ёзна страшыла фашыстаў, адзін з прадпрымальных расіян нібыта хацеў даставіць на парад Перамогі ў казахскую сталіцу і нядрэнна на гэтым зарабіць. Дарэчы, раней аналагічным чынам стары і моцна пашкоджаны савецкі цяжкі танк ІС-2 расіянін тут правозіў у Латвію, дзе яго купіў адзін з калекцыянераў незвычайнай тэхнікі. Гадоў з дзесяць назад той танк доўга прастаяў на граніцы пакуль яго не прызналі небоездольным і прапусцілі праз кардон. На гэты раз, напэўна, у падобнай гісторыі будзе іншы працяг. Першапачатковую ацэнку супрацоўнікаў Віцебскай мытні, што груз коштам больш 636 млн. рублёў - прадукцыя ваеннага прызначэння, неўзабаве пацвердзілі ваенныя эксперты Міністэрства абароны Беларусі. Як высветлілася, гэты танк быў выраблены ў пачатку 1945 года і нават паспеў крыху паўдзельнічаць у баях на тэрыторыі Польшчы, дзе ён потым знаходзіўся ў адным з музеяў на адкрытым паветры. Зараз палякі пазбаўляюцца ад рарытэтаў свайго пракамуністычнага мінулага і з задавальненнем прадалі баявую машыну. Праўда, па дакументах перавозчыка выходзіла, што танк не можа быць аднаўлены для вядзення баявых дзеянняў, але гэта была лухта. Між тым расійскія тэлеканалы нават захлёбваюцца ад бравады, калі расказваюць, як баевікі ў Данбасе здымаюць такую тэхніку з пастаментаў, каб неўзабаве накіраваць баявыя машыны пасля рэстаўрацыі зноў у бой з украінскай арміяй.

### Пастаўскі раён

# Калі ў кішэнях пуста

■ Кастусь Александровіч

**Сур'ёзны эканамічны крызіс прывёў у большасці рэгіёнаў Беларусі да зніжэння заробкаў і адпаведна да падзення пакупніцкай актыўнасці насельніцтва.**

У глыбінцы ўжо няма нават размоў і аб зарплатах 500 долараў, якую ў гэтай пяцігодцы збіраліся яшчэ падвоіць. Як і ў іншых кутках вобласці, у Пастаўскім раёне таксама сталі хранічнымі запазычанасці па выплаце заробкаў людзям, узровень жыцця стаў пагаршацца. У выніку адзін з вядучых у краіне Пастаўскі райспажыўсаюз сёлета сутыкнуўся з сур'ёзным падзеннем тавараабароту, хоць толькі ў сельскай мясцовасці мае 48 магазінаў, 2 кафэ і 10 аўтамагазінаў для абслугоўвання вяскоўцаў. Аднак і ў горадзе справы ў гандлі толькі пагаршаюцца, бо пастаўчане бяднеюць. Ніколі такога раней не было, каб за месяц у красавіку прадалі толькі 5 тэлевізараў. У параўнанні з мінулым годам, зніжэнне продаж нехарчовых тавараў перавысіла 810 млн. рублёў. Калі раней штомесяц тут прадавалі мэблі на суму каля паўмільярда рублёў, то зараз выручка знізілася ўжо ў 3 разы. Нават самы папулярны супермаркет "Цэнтральны" раскручанай гандлёвай сеткі "Родны кут", хоць і праводзіць актыўныя формы продажу тавараў са зніжкамі па сучасных электронных схемах іх дастаўкі, але ў красавіку зменшыў аб'ёмы продаж на 600 млн. рублёў. Дарэчы, мясцовае райпо летась адзінае на Віцебшчыне працавала з дынамікай росту, але цяпер у яго разгалінаванай гаспадарцы паўсюдна стала горш, асабліва ў сферы арганізацыі грамадскага харчавання. Сітуацыя ў іншых кутках Прыдзвіння яшчэ больш трывожная.

## Аб самым надзённым

# УСТУПНАЯ КАМПАНІЯ-2015 ПРАКТЫЧНА НЕ БУДЗЕ АДРОЗНІВАЦЦА АД ПАПЯРЭДНІХ, АДНАК ВУЧЫЦЦА БЕЛАРУСАМ У ВНУ І ССНУ ЎСЁ ДАРАЖЭЙ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**На бюджэтную форму навучання сёлета ў ВНУ прымуць толькі каля 28 тысяч юнакоў і дзяўчат. Фактычна, гэта толькі тры чалавекі з дзесяці жадаючых. А астатняя моладзь павінна будзе вучыцца за грошы і выкласці за год навучання ўжо мінімум ад 15 да 20 млн. рублёў.**

Вось і засталіся набыткам гісторыі ў Беларусі нядаўнія масавыя ўрачыстасці з нагоды 70-годдзя Вялікай Перамогі. Гэта вельмі добра, што памяць аб мінулым, аб гадах суровых пакутаў жыве ў сэрцах беларусаў, паколькі ў полымі нечалавечых выпрабаванняў загінуў кожны трэці суайчыннік. Трэба ведаць, што за 1418 дзён і начэй нацысцкія захопнікі на нашай зямлі знішчылі амаль 2,5 мільёна чалавек толькі мірнага насельніцтва. Яшчэ больш за 800 тысяч нашых землякоў склалі свае галовы, змагаючыся на перадавой, у тыле ворага ў партызанскіх атрадах і ў падпольных групах. Цяперашнія школьнікі на прадстаячых выпускных экзаменах будуць пра гэта расказваць.

Праўда, новы міністр адукацыі Беларусі Міхаіл Жураўкоў падчас апошняй анлайн-канферэнцыі, пацвердзіў, што ў гэтым годзе тыя, хто заканчвае сёлета і ў 2016 годзе 11-я класы сярэдніх школ і гімназій, будуць здаваць экзамен толькі за сучасны этап гісторыі дзяржавы, пачынаючы з 1917 года. Па словах прафесара-міністра, школьнікі раней за курс няпоўнай сярэдняй школы пасля 9 класаў здавалі гісторыю Беларусі папярэдніх стагоддзяў, якая заканчвалася падзеямі кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту.

А вось для соцень тысяч бацькоў і родных будучых абітурыентаў напрыканцы вясны зноў настала пара таксама хваляванняў і, магчыма, бяссонных начэй за будучае іх дзяцей. Не сакрэт, што атрыманне жаданага дыплома аб вышэйшай, альбо сярэдне-спецыяльнай адукацыі – гэта цяпер вельмі затратная справа. На бюджэтную форму навучання сёлета ў ВНУ прымуць толькі каля 28 тысяч юнакоў і дзяўчат. Фактычна, гэта толькі тры чалавекі з дзесяці жадаючых. А астатняя моладзь павінна будзе вучыцца за грошы і выкласці за год навучання ўжо мінімум ад 15 да 20 млн. рублёў.

У параўнанні з мінулым годам, сёлета запланавана прыняць на бюджэт у ВНУ краіны на адну тысячу меней першакурснікаў. Найбольш гэта "абразанне" закране медыцынскія ўніверсітэты краіны, дзе атрыманне дыплома, напрыклад, урача-стаматолага пацягне ўжо амаль 138 млн. рублёў выдаткаў толькі за аплату ўсяго кошту навучання. Да гэтай сумы трэба дадаць яшчэ, як правіла, аплату здымнай кватэры на першых курсах. Студэнтам жа яшчэ і харчавацца трэба, і купляць самім вучэбныя падручнікі, аплочваць інтэрнэт і мабільны тэлефон для падтрымання сувязі з домам. Цяпер няма ніякіх ільгот на праезд за поўцаны, як за савецкім часам. Вось і атрымоўваецца, што для бедных людзей і для беларускіх сем'яў з невысокімі даходамі далейшая вучоба дзяцей – таксама няпростае жыццёвае выпрабаванне.

Але наш час – даволі жорсткі, ніхто на твае жыццёвыя праблемы і цяжкасці не будзе звяртаць увагу. Добра ўжо тое, што сёлета не змяніліся правілы прыёму ў тэхнікумы і каледжы і кантрольныя лічбы прыёму ў ССНУ на ўзровень сярэдне-спецыяльнай адукацыі за кошт сродкаў з бюджэту захаваліся, як летась. На гэту ступень прымуць 40,5 тысяч моладзі. А вось у прадстаячае цэнтралізаванае тэсціраванне ўпершыню ўключылі выпрабаванні па кітайскай мове. Без экзаменаў могуць паступаць у ВНУ на 22 педагагічныя спецыяльнасці медалісты і пераможцы школьных прадметных алімпіяд.

Таксама, як многія ведаюць, у параўнанні з мінулым навучальным годам, сёлета крыху змянілі падыходы да вызначэння ніжняга парогу балаў, пры якім не прымуць дакументы ў прыёмную камісію ВНУ. У выніку, па роднай і рускай мовах цяпер неабходна набраць больш 10 прахадных балаў, па іншых гуманітарных профільных прадметах нездавальняючымі будуць адзнакі ад 0 да 19 балаў. У міністэрстве адукацыі таксама загадзя папярэдзілі ўсіх, што ў першую чаргу для студэнтаў 1-га курса сёлета яшчэ можа павысіцца кошт навучання, адразу пасля змянення тарыфнай стаўкі.

Між тым, сёлета сітуацыя на вельмі многіх айчынных прадпрыемствах і ў гаспадарках краіны цяжкая, хоць ты плач. Невыпадкова кіраўнік дзяржавы публічна занепакоіўся вельмі напружанай абстаноўкай нават на буйных айчынных прадпрыемствах і даў даручэнне міністру працы і сацыяльнай абароны да канца крызісу пастарацца захаваць працоўныя калектывы. Аднак, як падаецца, і прадстаячым летам шмат дзе вымушаны будуць працаваць па няпоўным графіку, многія людзі падчас вымушаных водпускаў паедуць на дачы, у вёску, каб неяк пракарміцца. Вось толькі, калі ў бацькоў праблемы на вытворчасці, затрымліваюцца заробкі, хто заплоціць за вучобу іх дзяцей?

Аднак цяпер нават у выпускнікоў бюджэтных форм навучання сталі з'яўляцца цяжкасці пры размеркаванні маладых спецыялістаў. Пры гэтым асобныя кіраўнікі прадпрыемстваў бываюць незадаволенымі ўзроўнем падрыхтоўкі маладых кадраў, якіх прыходзіцца на месцах дадаткова перавучваць, каб яны сталі падрыхтаванымі кваліфікаванымі спецыялістамі. У глыбінцы існуе і іншая праблема, многія накіраваныя па размеркаванні працуюць з лянотай, лічаць час, каб паскарэй адсюль з'ехаць пасля абавязковай адпрацоўкі. Хоць і ў Мінску зараз стала няпроста, але па-ранейшым вельмі многія імкнуцца любымі спосабамі ў сталіцы затрымацца, знайсці сваё месца "пад сонцам".

### Надвор'е ў Глыбокім — www. rp5ru

| | Чацвер 21.05.15 | | | | Пятніца 22.05.15 | | | | Субота 23.05.15 | | | | Нядзеля 24.05.15 | | | | Пан. 25.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +16 | +18 | +17 | +14 | +11 | +10 | +13 | +13 | +8 | +14 | +16 | +14 | +11 | +11 | +14 | +11 | +6 | +12 | +16 |
| Ціск | 745 | 745 | 748 | 750 | 751 | 753 | 754 | 754 | 753 | 752 | 750 | 749 | 749 | 750 | 751 | 752 | 752 | 753 | 752 |
| Вільготнасць | 83 | 93 | 90 | 83 | 91 | 95 | 69 | 84 | 90 | 74 | 52 | 76 | 91 | 83 | 46 | 60 | 81 | 58 | 43 |
| Вецер м/сек | 6 Ю | 5 Ю | 4 С-З | 3 С | 3 С | 2 С-В | 2 С-В | 1 Ю-В | 2 Ю | 3 Ю | 3 Ю-З | 1 Ю-З | 1 Ю-З | 4 С | 4 С | 3 В | 3 В | 5 В | 7 Ю-В |

## Дзень за днём

**Золатавалютныя рэзервы Беларусі ўпершыню сёлета выраслі ў красавіку. Кітай згадзіўся адкрыць для Беларусі крэдытныя лініі на 7 млрд. USD. З пачатку года рост цэн дасягнуў ужо 5,9 %, заробкі беларусаў сталі ў 2,5 разы ніжэй абяцанай да 2015 года зарплаты 1 тысячы долараў. У краіне зноў ледзь не падаражэў тэхагляд аўтамабіляў, але А. Лукашэнка запатрабаваў спыніць рост цэн і любымі спосабамі захаваць працоўныя калектывы. Па скарачэнні штатаў у І-м квартале звольнілі 1800 і больш 11 тысяч чалавек – за прагулы. За сямейным капіталам звярнуліся 1857 сем'яў. Летась ужо толькі 9,5 % кніг у Беларусі выдалі на роднай мове.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Еўрасаюз адхіліў патрабаванне Расіі адкласці яшчэ на адзін год уступленне ў сілу ключавога пагаднення аб свабодным гандлі ЕС з Украінай.

**Англія.** На напружаных усеагульных выбарах насуперак прагнозам перамаглі зноў кансерватары Д. Кемерана, ім хапіла галасоў для стварэння аднапартыйнага ўрада краіны.

**Францыя.** Камітэт Еўрапарламента па замежных справах зацвердзіў узмацненне санкцый супраць Расіі ў выпадку зрыва Крамлём мінскіх пагадненняў па Украіне.

**Украіна.** МЗС краіны, Дзярждэпартамент ЗША абурыліся рашэннем Следчага камітэта РФ прадоўжыць на паўгода тэрмін следства па справе лётчыцы, члена ПАСЕ Н. Саўчанка.

**Ізраіль.** Прадстаячае аснашчэнне войск СПА Ірана расійскімі комплексамі С-300 практычна пазбавіла армію краіны магчымасцей знішчыць яго ядзерны патэнцыял.

**Германія.** Упершыню ў свеце група фізікаў універсітэта Гётэ з Франкфурта сабрала стабільную вялікую малекулу гелію пры тэмпературы, блізкай да абсалютнага нуля.

**Расія.** На фоне збяднення расіян савет дырэктараў "Раснафты" прадоўжыў паўнамоцтвы яго главы І. Сечына яшчэ на 5 гадоў са штомесячным акладам 400 тысяч долараў.

**Куба.** Пасля аднаўлення дыпламатычных адносін з ЗША ўпершыню праз 50 гадоў паміж востравам і штатам Фларыда восенню адновяцца паромныя перавозкі людзей і грузаў.

**Англія.** Высокі суд Лондана адхіліў апеляцыю 39-гадовага расіяніна У. Антонава на рашэнне аб яго экстрадыцыі ў Літву, дзе ён з уласнага банка Snoras вывеў 0,5 мільярда еўра.

**Украіна.** Тупіковая сітуацыя з акупіраваным Расіяй Данбасам, як заявіў прафесар А. Маціл, больш выгадная для Кіева, бо ў Крамля з'явіліся дадатковыя праблемы за рэгіён разрухі.

**Расія.** Пасля забастоўкі 500 чалавек з-за затрымак заработнай платы дырэкцыя ўзводзімага касмадрома "Восточный" наняла на працу яшчэ тысячу новых наёмных рабочых.

**ЗША.** У штаце Фларыда затрымалі праз 55 гадоў асуджанага за забойства чалавека ў ДТЗ 79-гадовага Ф. Фрэшуотэрса, які ўцёк з турмы і так доўга хаваўся ад правасуддзя.

**Расія.** Пасля далучэння Крыма, як заявіў доктар палітычных навук У. Пастухоў, архаічныя чорнасоценныя ідэі сярод рускіх набылі характар пандэміі, РФ стала краінай маргіналаў.

**Малдова.** Паліцыя затрымала 28-гадовага бізнэсмэна Ілана Шора, мужа расійскай спявачкі Жасмін па падазрэнні ў крадзяжы 700 мільёнаў долараў з мясцовых банкаў.

**Расія.** Па гучнай справе карупцыі і махінацый у Міністэрстве абароны РФ суд пакараў 5 гадамі турмы галоўную фігурантку Е. Васільеву, арыштаваны яе маёмасць у 3 гарадах.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Памер дапамогі па беспрацоўі (175 тысяч), як пацвердзіла міністр працы і сацабароны Марыяна Шчоткіна, у Беларусі ў бліжэйшы час не будзе павялічаны.

**Барысаў.** У канцы мая пачнецца будаўніцтва І-й чаргі новага аўтазавода "БелДжы" коштам 330 млн. $ з цэхамі зваркі, афарбоўкі і зборкі кузаву да 60 тысяч машын у год.

**Смалявічы.** Да канца года ў беларуска-кітайскім парку "Вялікі Камень" кітайскія ІТ-гіганты Huawei І ZTE пачнуць будаваць два свае сучасныя заводы электронікі.

**Мінск.** Услед за главой Белтэлерадыёкампаніі Г. Давыдзька і былы яе кіраўнік А. Зімоўскі прызнаў, што ад расійскага тэлебачання сыходзіць небяспека для суверэнітэту Беларусі.

**Горкі.** Пад асабісты кантроль глава Следчага камітэта В. Шаеў узяў ход следства па справе з надуўным атракцыёнам, дзе розныя цяжкія траўмы атрымалі 9 дзяцей.

**Мінск.** На чарговым пасяджэнні кантактнай групы Украіна-АБСЕ-Расія ўдалося дабіцца найбольшага прарыву да паўнавартаснага перамір'я і нармалізацыі сітуацыі ў Данбасе.

**Гомель.** Па жудаснай справе спайс-трагедыі суд пакараў 15 і 11 гадамі калоніі ўзмоцненага рэжыму двух хлопцаў, пад кайфам яны пазбавілі зроку і парэзалі твар сябру.

**Гродна.** Па дамоўленасці з польскімі калегамі Беларуская чыгунка арганізавала новы ранішні маршрут з Мінска ў Польшчу з перасадкай у Гродне і далей на Беласток.

**Шклоў.** У закрытым рэжыме суд у калоніі № 17 накіраваў экс-кандыдата ў прэзідэнты М. Статкевіча да канца адбыцця зняволення зноў ў турму Магілёва на год 7 месяцаў і 15 дзён.

**Мінск.** У насельніцтва заканчваюцца грашовыя запасы, бо ў красавіку беларусы здалі ў абменнікі банкаў рэкордную колькасць валюты на суму 269,9 млн. долараў.

**Баранавічы.** З дапамогай пажарных рукавоў выратавальнікі МНС выцягнулі каня, які праваліўся ў склеп мясцовага жыхара, раней падобны выпадак здарыўся і ў Пружанах.

**Глуск.** Ноччу ў выніку незразумелага пажару ў райцэнтры згарэў цэх па выпуску паліўных брыкетаў, аўтапагрузчык і 60 тон гатовай прадукцыі, людзі не пацярпелі.

**Гродна.** Упершыню ў краіне цэнтральны гарадскі парк імя Жылібера стаў поўнасцю зонай безправаднога доступу ў Інтэрнэт па тэхналогіі Wi-Fi, зон Wi-Fi у горадзе звыш 14 тысяч.

**Гомель.** Толькі арышт і экстрадыцыя з Расіі выратавалі ад расстрэлу 43-гадовага злачынцу па мянушцы Дрон, яго прызнаў суд вінаватым у саўдзеле 8 забойствах банды Марозава.

**Маларыта.** Вучоныя гомельскага Інтытута лесу сабралі прыродны матэрыял для далейшага кланіравання найстарэйшага "Цар-дуба" узростам 850 гадоў ля вёскі Дубічы.

## Беларусам стала прасцей уладкавацца на працу ў Польшчы




■ FINANCE.TUT.BY

**Беларусам стала прасцей атрымаць працу ў Польшчы. З траўня ў суседзяў уступілі ў сілу два распараджэнні Міністэрства працы і сацыяльнай палітыкі, якія рэгулююць працаўладкаванне замежнікаў, паведамляе польскае выданне Rzeczpospolita.**

Абодва дакументы спрашчаюць прыём на працу спецыялістаў з Беларусі, Грузіі, Малдовы, Расіі і Арменіі. Цяпер польскім працадаўцам не трэба апавяшчаць мясцовыя ўлады і атрымліваць дазвол пры найманні спецыялістаў з гэтых краін пры ўмове, што яны будуць працаваць не больш чым 6 месяцаў на працягу года.

Па дадзеных выдання, польскія кампаніі ўсё больш зацікаўлены ў працаўніках з постсавецкай прасторы. Да прыкладу, у мінулым годзе службы занятасці зарэгістравалі 387.398 заявак польскіх фірмаў аб жаданні ўзяць на працу замежнікаў. Больш за ўсё такія работнікі патрабаваліся ў сельскай гаспадарцы і будаўніцтве. Колькасць гэтых заявак, калі параўноўваць з 2013 годам, вырасла і перавысіла адзнаку ў 150 тысяч.

Лягчэй знайсці працу ў Польшчы стала таксама замежным студэнтам. Да 1 траўня ім дазвалялі працаваць без дазволу толькі ў летнія месяцы. Зараз замежным студэнтам вочнай формы навучання і дактарантам, якія навучаюцца ў Польшчы, дазволена працаваць без дазволу на працягу года.

Пры гэтым колькасць жадаючых атрымаць адукацыю ў Польшчы пастаянна расце. Зараз у Польшчы, па дадзеных выдання, навучаецца больш за 46 тысяч замежнікаў (прыкладна на 10 тысяч больш, чым у папярэднім годзе). Большасць з іх - гэта каля 24 тысяч чалавек - украінцы.

Аднак польскім кампаніям, перш чым прыняць на працу замежніка, па-ранейшаму прыйдзецца даведвацца ў мясцовых органах улады, ці няма сярод беспрацоўных палякаў спецыялістаў з адпаведнай кваліфікацыяй. Ім аддаецца перавага пры прыёме на працу.

Часцей за ўсё ў 2014 годзе замежнікі займалі ў Польшчы вакансіі пакаевак, гандлёвых прадстаўнікоў, кіроўцаў, грузчыкаў, трактарыстаў, кухараў, будаўнікоў.

У мінулым годзе Польшча прыняла новую рэдакцыю закона аб іншаземцах. Цяпер уладальнікі карты паляка магчымасць атрымаць сталы від на жыхарства і на працягу трох гадоў стаць грамадзянамі Польшчы. Усё больш людзей у Беларусі будуць спрабаваць атрымаць карту паляка, каб знайсці сябе на польскім рынку працы, падкрэслівае аналітык BISS.

Адзначым, што па выніках мінулага года Польшча ўвайшла ў топ-5 краін, у якія беларусы найчасцей выязджалі на заробкі. У суседнюю краіну адправілася 106 чалавек, усё па рабочых вакансіях: 94 чалавекі - на тэрмін ад 6 месяцаў да года, яшчэ ў 12-ці беларусаў тэрмін дзеяння працоўнага дагавора складаў больш за год. Характэрна, што на заробкі выехалі ўсяго дзве жанчыны, астатнія - мужчыны.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У вобласці ў маі найбольш у Беларусі засталося 188 прадпрыемстваў і гаспадарак з даўгамі па зарплаце, калі па краіне мелі такія запазычанасці толькі 139 калектываў.

**Паставы.** З канца зімы ўжо больш 500 сем'яў з глухіх куткоў раёна сувязісты РВЭС падключылі да эфірнага лічбавага тэлебачання ZALA з бесправадной тэхналогіяй сігналу.

**Віцебск.** Адзін з чатырох новых буйных аграхолдынгаў віцебскай зоны ўзначаліў былы намеснік старшыні аблвыканкама па сельскай гаспадарцы Эдуард Дзем'янаў.

**Полацк.** На ўездзе ў горад адкрыўся адзін з буйнейшых у вобласці гандлёва-забаўляльны цэнтр "Манеж" з зонай кафэ-рэстаранаў, 50 крамамі, катком і гіпермаркетам "Еўраопт".

**Глыбокае.** Падчас пасяўной на полі ля вёскі Верхняе ў Віцебскім раёне знайшлі снарады, міны і гранаты часоў вайны, небяспечны арсенал абясшкодзілі ваенныя сапёры вайсковай часці 5524.

**Лёзна.** Ва ўрачыстай абстаноўцы ў вёсцы Шніткі адкрылі гранітны памятны знак экіпажу загінулага савецкага танка, у вайну на тэрыторыі раёна пахавалі больш 30 тысяч воінаў.

**Віцебск.** З-за будаўнічых работ па ўзвядзенні Віцебскай ГЭС прыйшлося часова закрыць аздараўленчыя дзіцячыя лагеры "Бярозка" і "Зорка" паблізу ракі Заходняя Дзвіна.

**Браслаў.** На пункце пропуску "Урбаны" супрацоўнікі Віцебскай мытні спынілі спробу ўвозу з Латвіі ў РФ на фуры Iveko з паўпрычэпам баявога танка Т-34 1945 года выпуска.

**Віцебск.** Пасля таго, як маці пайшла з дому, 5-гадовы хлопчык застаўся з бабуляй, пайшоў на вуліцу і патануў у суседскім дварэ ў вырытым вадаёме глыбінёй 2 метры.

**Мёры.** На адной з плошчаў раённага цэнтра адкрылі і асвяцілі капліцу ў памяць пра загінуўшых у вайну 7356 воінаў і мірнага насельніцтва, сродкі на яе выдзеліла масквічка Т. Ляхава.

**Віцебск.** У абласным цэнтры прайшоў традыцыйны Дзень прызыўніка, воінскую форму сёлета адзелі амаль 400 навабранцаў з розных куткоў вобласці, прызваных у армію.

**Руба.** Будаўніцтва самай буйной у Беларусі Віцебскай ГЭС на Дзвіне кітайская кампанія стала весці ў кругласутачным рэжыме, каб да канца года скончыць бетонныя работы.

**Браслаў.** Пасля гадавога перапынку зноў прыняў наведвальнікаў абноўлены раённы Дом культуры, капітальны рамонт яго глядзельнай залы правялі будаўнікі АБФ "Рассвет Пастаўскі".

**Віцебск.** Да бацькоў прыехаў расійска-беларускі касманаўт Алег Арцем'еў і прызнаўся, што і пасля палёту з сям'ёй жыве ў сямейным інтэрнаце за 25 км ад Зорнага гарадка.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# Рэкеціры, якія трымалі ў страху глыбоцкі рынак, атрымалі па заслугах!

**Рэкет – слова з "ліхіх 1990-х"! Неад'емны атрыбут капіталізму і прыватнай уласнасці. Хто чуў яго раней? У СССР – сацыялізм, дзяржаўная ўласнасць. Які рэкет?**

**Вярнуўся ізноў капіталізм, прыватная ўласнасць – адразу ж вярнуўся і рэкет.**

У 1990-я гг, наколькі мне вядома, для глыбоцкіх камерсантаў набіваліся ў "дах" полацкія рэкеціры. Вядома ж, дзе большы горад, там і больш рознага жулля!

А некалі – вы не паверыце – Глыбокае пасля Вільні было самым вялікім горадам Віленскага ваяводства. І тут былі не чужыя, а свае, дамарослыя рэкеціры. Мы знайшлі публікацыю ў газеце "Kurjer Wileński" за 1938 год.

Глыбокае, 1930-я гг, Рынкавы пляц імя Т.Касцюшкі. Гандаль рыбай. *Фота Леанарда Рачыцкага.*

**„Tasiemkowcy" z Głębokiego przed Sądem Apelacyjnym w Wilnie**

**Загаловак артыкула ("Рэкеціры з Глыбокага перад Апеляцыйным Судом у Вільні") у газеце "Kurjer Wileński", №193, 16 ліпеня 1938 года..**

### "Рэкеціры з Глыбокага перад Апеляцыйным Судом у Вільні"

Для ўсіх жыхароў у Глыбокім здаўна ўжо было таямніцай полішынэля, што на рынку лютуе банда вымагальнікаў, дамарослых рэкеціраў, якія пад пагрозай збіцця, нават забойства, вымагалі грошы ад гандляроў і г.д.

Тэрарызаваныя гандляры праз доўгі час не паведамлялі ў паліцыю з-за боязі помсты. Аднак урэшце адзін з тэрыразаваных, нехта Вайцяхоўскі, дырэктар местачковых забаўляльных "імпрэз" паведаміў паліцыі.

Назіранне і следства падцвердзілі яго паказанні, і гэтая банда рэкеціраў сталася зліквідаваная, а яе чальцы: Грабоўскі, Марцынкевіч і Хуцкі трапілі за краты.

Акруговы Суд у Вільні на выязной сесіі ў Глыбокім асудзіў Марцынкевіча, як атамана банды, да 5 гадоў вязнення, Грабоўскага на 2 гады, а таксама Хуцкага на паўтара года.

Учора Апеляцыйны Суд у Вільні зацвердзіў вырак першай інстанцыі, ухіляючы яго часткова ў адзіным і ў стасунку да Мікалая Хуцкага, якому адбыванне кары падвышана да 5 гадоў.

***"Kurjer Wileński"** №193, 16 ліпеня 1938 года.*

На гэтым можна было б і скончыць... Аднак, пра што ўжо не мог напісаць "Kurjer Wileński"? Пасадзілі глыбоцкіх рэкеціраў у ліпені 1938-га, а ў верасні 1939-га прыйшлі бальшавікі. Год і месяц рэкеціры правялі ў вязніцы за кратамі. Новая ж улада, якраз, прыхільна ставілася да пацярпелых "барацьбітоў" з рэжымам "панскай Польшчы".

Не стане вялікай сенсацыяй, калі, раптам, – паводле закону жанру – прозвішчы глыбоцкіх рэкеціраў некалі ўсплывуць сярод прадстаўнікоў тагачаснай мясцовай савецкай улады ці супрацоўнікаў міліцыі, альбо сярод банды рабаўнікоў у часе нямецкай акупацыі, якія выдавалі сябе за партызанаў, або паліцыянтаў на службе ў немцаў, якія палілі беларускія вёскі..



**Глыбокае 1930-я гг, Рынкавы пляц імя Т.Касцюшкі. На месцы вазоў сёння – 7-павярховы Дом Саветаў, на заднім плане 2-павярховы будынак, які захаваўся – цяпер БелЗнешЭканомБанк.** *Фота Леанарда Рачыцкага.*

■ Уладзімір Скрабатун

**Гартаючы стары альбом**

# Глыбокае ўчора і сёння: Замкавая, вуліца, на якой рабілася гісторыя



**Глыбокае, 1930-я гг, вул. Замкавая. Глыбоцкія пажарнікі на маршы.**
**Злева 2-павярховы будынак – не захаваўся, знішчаны ў апошнюю вайну. Справа – 2-павярховы будынак, які ўзведзены ў XIX ст. У 1930-я – аптэка доктара А.Файертага. На дальнім плане – былы касцёл кармелітаў, перабудаваны пад праваслаўную царкву.**



**Глыбокае, вул. Леніна, 9 траўня 2015 г. Глыбоцкая міліцыя на маршы.**
**Злева, на месцы знішчага вайной будынка, узведзены новы 2-павярховы 8-кватэрны будынак. Будынак (справа) па Леніна,5 захаваўся. Прыбраны франтон і абніжаны дах. Дальні план на царкву закрывае комін кацельні кансервавага завода і высокія дрэвы сквера Перамогі. На будыку па Леніна, 5 – ахоўная шыльда.**

Калі браць аддаленую гісторыю горада, то на вуліцы Леніна, а гэта – колішні Альгердаў шлях – рабілася ўся гісторыя Глыбокага.

Вось па якой дарозе ехаў будучы беларускі першадрукар Францішак Скарына з Полацка на Вільню? Гісторыя замоўчвае! Але ж, іншай дарогі, як гэтая, і няма. Гіпатэтычна – толькі праз Глыбокае. То можа тут і заначаваў Францішак, падсілкаваўся ў мясцовым шынку?

> **"... Але й сяньня можна спазнаць яго па зарослых, але прыкметных прасеках у лясох, па адхонных спусках да рэчак, па перакопах праз узгоркі, па гацях на балатох, па вугальлю ад спаленых вёсак, па знойдзеных абапал яго шышаках і палашах. Ён ідзе ад Полацку паўз мызы Рудні, праз раку Вушач, паўз Мядзьведжае возера проста на Чортаў Мост і, прайшоўшы каля Бахонкавае Гары, губляецца паблізу сучаснага гораду Глыбокага".**
> *Юрка Віцьбіч, "Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман".*

Сама вуліца як частка даўняй дарогі з Полацка на Вільню ў розных месцах называлася па-рознаму. Едзеш з Вільні – аўтобусам "Паставы-Вільня" – у бок Глыбокага, чытаеш шыльды на дамах. "Тракт Баторыя" – напісана. Так, Стэфан Баторый, кароль Рэчы Пасpалітай, загадваў трымаць у належным стане дарогу з Полацка на Вільню. Выконваючы каралеўскі загад, мясцовыя жыхары штораз яе рамантавалі, аб чым, дарэчы, не прамаўчалі гістарычныя хронікі.

У нас прынята называць гэтую дарогу Альгердавым альбо Вітавым Шляхам. Альгерд і Вітаўт, вялікія князі літоўскія, кіраўнікі Вялікага Княства Літоўскага, якое ў сённяшнім разуменні клічуць Рэспублікай Беларусь (цяперашняя Літва тады мела іншы назоў – Жамойць, альбо па-польску – Жмудзь).

Ці быў Альгерд, вялікі князь літоўскі, князь крэўскі і віцебскі ў Глыбокім? Ізноў жа пытанне: якой дарогай ехаў ён са світай з Віцебска ў Вільню? Гіпатэтычна – праз вёску Перавоз. Чаму? Бо гэта – адгалінаванне Альгердава Шляху ад Плісы, далей праз Галубіцкую пушчу ў накірунку Ушачаў, а затым і на Віцебск. Назва Перавоз – незвычайная! Рака Шоша тады была вельмі шырокай і глыбокай. У брод не перайдзеш! Была "паромная" пераправа – перавоз. Тут і не гадай – далей толькі праз Глыбокае, па Альгердавым Шляху, то бок па вуліцы Замкавай (Леніна) на Вільню!

Па вуліцы Замкавай – Альгердавым Шляху – з Вільні прыйшлі ў Глыбокае часткі Вялікай Арміі Напалеона і сам імператар Францыі. Яго цёпла прынялі ў Глыбокім, асабліва прэор кляштара кармелітаў, дзе імператар гасцяваў тыдзень.

Ды што казаць, сам назоў – вуліца Замкавая – пераважвае ўсе аргументы, замак тут быў! Ад каго баранілі той замак глыбачане? Ды, не ад немцаў, зразумела, а ад частых "гасцей" з Усходу, ад маскавітаў, якіх цяпер клічуць рускімі.

Даўнюю брукаванку накрыў асфальт, а пад асфальтам, пад нашымі нагамі, мо і не 600-гадовая, а 1000-гадовая гісторыя горада.

# Маеш незарэгістраваную зброю – здай яе добраахвотна!



**У цяперашні час на тэрыторыі Глыбоцкага раёна супрацоўнікамі Глыбоцкага РАУС, Глыбоцкай міжраённай інспекцыяй аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь сумесна з зацікаўленымі ведамствамі праводзяцца прафілактычныя мерапрыемствы, накіраваныя на захаванне правілаў палявання і рыбалоўства ў перыяд веснавога палявання і ўстанаўлення забароны на лоўлю рыбы падчас вясновага нерасту.**

■ **А.І. Гігола**, *начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

Дадзеныя мерапрыемствы праводзяцца штогод. Як правіла, парушэнне правілаў палявання і рыбалоўства, «браканьерства» звязаныя з выкарыстаннем зброі, якая з'яўляецца крыніцай павышанай небяспекі. За незаконныя дзеянні са зброяй заканадаўствам прадугледжана адміністрацыйная і крымінальная адказнасць. Але, не звяртаючы ўвагі на гэта, некаторыя грамадзяне, ставячы ў першую чаргу пад пагрозу сябе, членаў сям'і, а таксама навакольных захоўваюць па месцы жыхарства незарэгістраваныя ва ўстаноўленым парадку паляўнічыя, газавыя і іншыя віды зброі.

Адміністрацыйная адказнасць за незаконныя дзеянні ў дачыненні да паляўнічай агнястрэльнай гладкаствольнай зброі ўстаноўлена артыкулам 23.71 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Крымінальная адказнасць за незаконныя дзеянні ў сферы абароту зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў прадугледжана артыкуламі 295 - 297 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь. Санкцыяй артыкула 295 КК Рэспублікі Беларусь «Незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў» прадугледжана максімальнае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад чатырох да дванаццаці гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі. Аднак, у заўвазе арт.295 КК Рэспублікі Беларусь паказана, што асоба, якая добраахвотна здала прадметы, названыя ў артыкулах 295 - 297 Крымінальнага Кодэкса, вызваляецца ад крымінальнай адказнасці за дзеянні, прадугледжаныя названымі артыкуламі, акрамя выпадкаў збыту.

Неабходную інфармацыю, якая звязана з абаротам зброі, можна атрымаць па тэлефонах: 2-26-82, 2-14-23 - у аддзеле аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС. Аб фактах незаконных дзеянняў у сферы абароту зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў можна паведаміць у аператыўна-дзяжурную службу Глыбоцкага РАУС па тэлефонах: 597-21-74 (МТС), 314-89-02 (Velcom), 2-27-02 і 102.

# Забудоўшчыкі жылля лічаць неабходным «амніставаць» пакупнікоў дарагой нерухомасці

**Асацыяцыя забудоўшчыкаў аб'ектаў жыллёвага будаўніцтва прапануе не прымяняць меры ўздзеяння да асоб, якія набылі жыллё павышанага камфорту і ў дачыненні да якіх падатковыя органы Мінска запатрабавалі дэкларацыі аб даходах і маёмасці.**

■ **Аляксей Аляксандраў**, *БелаПАН*

Гэтая тэма абмяркоўвалася на пасяджэнні асацыяцыі 15 мая. Прычынай для абмеркавання сталі заявы намесніка начальніка інспекцыі МПЗ па Мінску Галіны Гурыновіч на прэс-канферэнцыі 14 мая. Чыноўнік, у прыватнасці, паведаміла, што падатковыя органы запатрабавалі ў грамадзян, якія ажыццявілі з пачатку 2015 года буйныя расходы, падаць дэкларацыі аб даходах і маёмасці. «Цікавіць нас таксама інфармацыя аб грамадзянах, якія ажыццявілі 100-працэнтную аплату за жылыя памяшканні, размешчаныя ў жылых комплексах павышанага камфорту тыпу «Аквамарын», «Парк-сіці», «Ізумрудны», «Вівальдзі», «Вівальдзі 2», «Чайкоўскі», «Ветразь», – сказала Гурыновіч.

«Гэта шкодная з'ява, асабліва ў сітуацыі, калі актыўнасць пакупнікоў набліжаецца да нуля», – заявіў у каментары БелаПАН член савета Асацыяцыі забудоўшчыкаў аб'ектаў жыллёвага будаўніцтва, гендырэктар СТАА «Арэса-Сэрвіс» Сяргей Каранько.

Паводле яго слоў, зараз, наадварот, неабходна стымуляваць куплю нерухомасці, бо назіраецца сур'ёзная стагнацыя як на рынку жылля, так і ў будкомплексе ў цэлым. Элітнае жыллё – гэта вельмі вузкі сегмент, які займае прыблізна 5% у структуры прапаноў, і зараз продаж у ім практычна спыніўся, дадаў Каранько.

Паводле яго слоў, члены аб'яднання лічаць неабходным правесці нешта кшталту «амністыі» для тых, хто трапіў у поле зроку МПЗ.

У сваю чаргу кіраўнік падраздзялення «Новабудцэнтр» групы кампаній «Твая сталіца» Наталля Пічуха мяркуе, што заява прадстаўнікоў падатковых органаў не павінна паўплываць на паводзіны гульцоў рынку, бо яны і раней цікавіліся інфармацыяй аб пакупніках дарагой нерухомасці.

«Каб павысіць прыцягальнасць сваіх праектаў, забудоўшчыкі вымушаны ісці на даванне дысконту, напрыклад выкарыстоўваюць акцыйныя прапановы па абмежаванаму колькасць кватэр, а таксама на даванне растэрміноўкі плацяжоў без павышэння кошту квадратнага метра. Апошнім часам павялічылася колькасць здзелак па новабудоўлях з растэрміноўкай плацяжоў», – зазначыла Пічуха.

Паводле яе інфармацыі, з пачатку 2015 года сярэдні кошт прапановы квадратнага метра ў новабудоўлях Мінска стабільна зніжаецца на 3-5% у месяц. У параўнанні з лістападам 2014-га цэны ў новабудоўлях класаў «эканом» і «стандарт» упалі на 15%, або на 200-250 долараў за квадратны метр.

«У найбольшай ступені кошт прапановы зніжаецца ў класах «камфорт» і «прэстыж». Зніжэнне пакупніцкага попыту на новабудоўлі гэтых класаў прымусіла забудоўшчыкаў зменшыць цэны ў сярэднім да 20%», – паведаміла Пічуха.

Сёння са 132 новабудоўляў, што прапануюцца на рынку, 55% адносяцца да класа «стандарт». Да класаў «эканом» і «камфорт» – 16 і 21% адпаведна, а ў класе «прэстыж» выстаўлена толькі 8%.



# Кожны святы – гэта Божы знак для тых часоў, у якія жыве

**Лучайская парафія, што на Пастаўшчыне ў Віцебскай дыяцэзіі, 16 мая адзначала адпустовую ўрачыстасць у гонар святога Андрэя Баболі. Нягледзячы на пахмурнае і зменлівае надвор'е, вернікаў прыбыло як заўседы шмат. Прыгожы і велічны лучайскі касцёл сабраў пад свае скляпенні зноў сваіх сяброў і пілігрымаў з Пастаў разам з кс. Юрыем, Шаркаўшчыны, Глыбокага, Мінска і іншых мясцін краіны.**

■ **Алена Клімза-Колтан**

Вядома, што святы Андрэй Баболя з'яўляецца таксама нябесным заступнікам чыгуначнікаў. Каб урачыста адсвяткаваць гэты асаблівы дзень і ўшанаваць рэліквіі апекуна, таксама прыбылі ў Лучай мясцовыя працаўнікі беларускай чыгункі і калегі па працы з Гродна, Маладзечна і Мінску разам з душпастырам супольнасці чыгуначнікаў – айцом Станіславам, пробашчам парафіі Маці Божай Ларэтанскай у Мінску.

Мясцовая моладзь з каталіцкім гуртом «Laudans» з Мінску правяла напачатку адарацыйныя разважанні і спевы перад Найсвяцейшым Сакрамантам ля алтара св. Андрэя Баболі на тэму: "Кожны святы – гэта Божы знак для тых часоў, у якія жыве". Гэта дало вернікам магчымасць паразважаць і задумацца ў гэты час на малітве… Бо святы пакутнік Андрэй – Божы знак яшчэ і для нас, і для нашых часоў. Ён з'яўляецца для нас узорам непарушнай веры, якая не адступае і не ломіцца перад абліччам найвялікшага цярпення, якая не баіцца ані пагроз, ані здзекаў.

Адпустовая літургія распачалася надзвычай урачыста, калі да працэсіі святароў і міністрантаў далучыліся чыгуначнікі ў сваёй форме і са штандарам супольнасці. Відовішча для нашага рэгіёну пакуль што незвычайнае. Цэлебраваў святую Імшу капелан Яго Святасці ксёндз доктар Аляксандр Рагіня, сакратар Апостальскай Нунцыятуры ў Казахстане, які ўдзячны сваёй роднай парафіі і не забывае сваіх землякоў. У святочнай гаміліі айцец Станіслаў звярнуў увагу на пытанне "Як цяжка быць пакутнікам у сучасным свеце". На прыкладзе святога Андрэя Баболі святар падкрэсліў, што кожны павінен імкнуцца быць верным Хрысту, верным сваёй сям'і.

Св. Андрэй Баболя з'яўляецца апякуном Беларусі, таму беларускага каларыту прыўнеслі ў свята маладыя хлопцы і дзяўчаты ў нацыянальных касцюмах. Яны разам з чыгуначнікамі падрыхтавалі дары і ўрачыста прынеслі іх да алтара. На заканчэнне літургіі прагучала літанія да св. Андрэя Баболі і адбылася працэсія з Найсвяцейшым Сакрамантам.

Гістарычнай падзеяй гэтага дня для парафіі стала адкрыцце "Касцёльнага музея імя Ганны Дубовік" – легендарнай парафіянкі. Яна напрыканцы жыцця ажыццявіла сваю мару і стала сястрой законнай з іменем Міхаэля. Усё жыццё яна прысвяціла служэнню Касцёлу, дасылала ці сама вазіла пасылкі святарам сасланых у лагеры і падтрымлівала з імі карэспандэнцыю, катэхізавала дзяцей у савецкі час, вазіла іх у іншую парафію для першай споведзі і Камуніі.

Перад адкрыццём музея слова прамовіў ксёндз Аляксандр Рагіня. Святар лічыць спачыўшую Ганну Дубовік або Ганначку (так пяшчотна называлі яе парафіяне) сваёй духоўнай апякункай. Больш таго, славуты сын лучайскай зямлі ўпэўнены, што менавіта яна вымаліла ў Бога дар святарскага паклікання для яго. Ён зазначыў, што адкрыццё музея, дзе знаходзяцца рэчы, якімі карысталіся нашы продкі, з'яўляецца памяццю пра іх і падзякай ім за дар веры, якую захавалі і перадалі сваім нашчадкам, але таксама і напамінам нам, каб веру і святыню захоўваць, падтрымліваць і перадаваць наступным пакаленням – найлепш уласным прыкладам свайго штодзённага жыцця і такі прыклад пакінула Ганна Дубовік.

У кожнага жадаючага была магчымасць наведаць новы музей, размешчаны на некалькіх ярусах вежы касцёла, падымаючыся па сходах аж да званоў, дзе адчынялася вачам прыгожая панарама Лучая. А, спусціўшыся з вежы ўніз на зямлю, госці маглі пакатацца па Лучаі на поні, пасмакаваць "адпустовыя цукеркі", набыць сувеніры, заставацца аж да вечара на канцэрце, каб пасля завесці добры настрой і ўражанні з Лучая дадому.

І хоць здавалася немагчымай канцэртная праграма пад адкрытым небам, але быццам хмары расступіліся і выглянула сонейка ад той станоўчай энэргіі, якую выпраменьвалі не толькі запрошаныя артысты, але і заўзятыя аматары павесяліцца. Пакуль музыкі з гурта «Laudans» настройвалі пасля дажджу сваю гукаапаратуру, самабытны баяніст Чэслаў Рачыцкі з Шаркаўшчыны прыўзняў святочны настрой, выконваючы мелодыі мінулых гадоў. А спявачка Валянціна Альшанская з зачароўваючым, мілагучным голасам парадавала сваім рэпертуарам і была вядучай усёй канцэртнай праграмы. Майскі фэст адкрыў лучайскім слухачам і яшчэ новыя імёны: Алега Сямёнава – беларускага спевака, лаўрэата прэміі «За духоўнае адраджэнне», заснавальніка гурта «Чысты голас» і маладога выканайцу Улада Сіманіса з Шаркаўшчынскага РДК. Беларускія чыгуначнікі на чале са сваім душпастырам паказалі, што здольныя «і да танца, і да ружанца». Вясёлае гучанне музыкі і спеву ўсіх прысутных паяднала ў адну радасную сям'ю. Прысутныя вадзілі карагоды пад прыгожыя песні беларускіх аўтараў у выкананні запрошаных артыстаў, а тым больш ад віртуознага выканання таленавітага акардэаніста Дзмітрыя Корсака, частага і многімі любімага лучайскага госця. Безумоўна, нельга было ўстаяць на месцы!

Сапраўды, падобныя святы вельмі аб'ядноўваюць людзей. У Лучаі ўсё спрыяе, каб стаць бліжэй да Бога, каб адчуць сябе сапраўднымі братамі і сёстрамі. Тут спалучаецца прыгажосць, створаная Богам, і прыгажосць, створаная рукамі руплівых неабыякавых людзей. А ўсё дзякуючы нястомнаму пробашчу Мікалаю Ліпскаму, вопыт якога ўжо пакрыху пераймаюць і іншыя парафіі.

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

# Глыбоцкія інспектары знялі кіно пра нахабнага ўшацкага браканьера

## і затрымалі яго па вяртанні на бераг

**Травень – апошні месяц вясны, але прырода не цешыць цёплымі днямі і добрым надвор'ем. Нягледзячы на гэта працы ў супрацоўнікаў міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету менш не становіцца.**

Практычна штодня інспектары затрымоўваюць парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, рознага роду "браканьераў" і проста нахабных грамадзян, якім закон "не пісаны".

Так, уначы 8 траўня 2015 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на тэрыторыі Докшыцкага раёна затрыманы двое жыхароў г. Мінска, якія ажыццяўлялі паляванне на вальшнепа, без дакументаў. Падчас разбіральніцтва інспектарамі было ўсталявана, што ўсе неабходныя дакументы ў парушальнікаў ёсць, але ігнаруючы закон, яны проста пакінулі іх дома, а раптам згубяць, у такім разе хай бы і зброю пакінулі дома, а то раптам згубяць, дык не. Суд Глыбоцкага раёна ацаніў дзеянні парушальнікаў штрафамі і пазбаўленнем права палявання.

13 траўня каля 6 гадзін раніцы інспектарамі на возеры Гуцкае паблізу в. Гута Пастаўскага раёна затрыманыя двое сваякоў, якія ўсталявалі браканьерскія сеткі наўпрост навідавоку інспектараў, за што і паплаціліся. Парушальнікі вырашылі, што яшчэ вельмі рана, інспектары спяць дома, але вельмі памыліліся. Лёс парушальнікаў вырашыць раённы суд.

15 траўня супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі праводзілі мерапрыемствы па ахове прыроды на тэрыторыі Ушацкага раёна паблізу в. Кублічы. Прыбыўшы на возера Уклейна каля 21 гадзіны вечара, інспектары ўбачылі нахабнага рыбака, які спакойна выліў з лодкі ваду, а затым паплыў на возера і ўсталяваў лесачную сетку. Інспектарам заставалася толькі зняць кіно пра браканьера і затрымаць яго па вяртанні на бераг. Мясцовы жыхар сваю віну, вядома ж, не прызнаў, маўляў, я шпацыраваў каля возера, а інспектары мяне затрымалі ні завошта. Што ж, раённы суд усталюе праўду і віну парушальніка.

У рэдкія цёплыя травеньскія дні карась, які водзіцца ў велізарных колькасцях у нашых азёрах, ідзе на нераст, і шматлікія карыстаючыся тым, што рыба адкладае ікру каля берага ў траве, якая абцяжарвае яе перасоўванне, ловяць карася рукамі, падхватнікамі, тым самым парушаючы закон. Для аматараў падобнай рыбалкі нагадваем, што такія незаконныя дзеянні падпадаюць па ч.1 арт. 15.35 Кодэкса Рэспублікі Беларусь "Аб адміністрацыйных парушэннях" і прадугледжваюць штраф ад 20 да 50 базавых велічынь і пакрыццё шкоды за кожную вылаўленую рыбу. Мінімальнае пакаранне за лоўлю рыбы рукамі ці падхватнікамі ў перыяд нерасту складзе 4 млн. рублёў, **Вам гэта трэба?**

З набліжэннем тэрміна сканчэння забароны і пэўных абмежаванняў на лоўлю рыбы Глыбоцкая міжрайінспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз нагадвае рыбаловам-аматарам.

З **10 красавіка па 8 чэрвеня** на тэрыторыі Віцебскай вобласці дазволена ажыццяўляць лоўлю рыбы толькі на адну вуду з адным кручком або на адзін спінінг, з берага, без заходу ў ваду, са штучных збудаванняў (масткоў, муроў і г.д.). Ва ўказаны перыяд часу забаронена выкарыстанне плавальных сродкаў усіх відаў і тыпаў.

На тэрыторыі Віцебскай вобласці забароненая лоўля сома з **31 траўня па 1 ліпеня**, лоўля судака забароненая з **15 красавіка па 30 траўня.**

Нагадваем грамадзянам пра адказнасць за парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства.

Так, за знаходжанне грамадзяніна ў рыбалоўных угоддзях з забароненымі прыладамі рыбалоўства (сетка, восці, мярэжа і г.д.) прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры ад 5 да 30 базавых велічынь. За незаконную здабычу рыбы забароненымі прыладамі рыбалоўства - адказнасць ад 20 да 50 базавых велічынь з пакрыццём шкоды за вылаўленую рыбу.

Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце звярнуцца да супрацоўнікаў міжрайінспекцыі.

Тэлефоны "гарачай лініі" Глыбоцкай міжраёнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету: **8-02156-28670, 897-23-02, 89( 55-28, 249-45-49, 6456678 мтс.**

# Няма таго, што раньш было! Рожань і Рожаніца...

## *На даўніх мапах часоў Дамініка Радзівіла, якому належыла Глыбокае, адзначаныя зусім іншыя назовы нашых азёраў і рэк*

■ **Уладзімір Скрабатун**



Вынятка з мапы радзівілаўскіх уладанняў за 1811 год. Адзначаныя вёскі Чачалі і Падгаі, возера Чачалёўскае і блізкае Белае (не падпісана).



Вынятка з радзівілаўскай мапы за 1811 год. Адзначаны фальварак Шарабаі, вадаём у фальварку (не захаваўся, яго ўтрымлівала плаціна млына), рака Аржаніца і паселішча – Лес Ліхабалота.

Надзея Храпавіцкая (Бабіч), філолаг, гісторык, якая працуе ў Вільні ў Еўрапейскім Гуманітарным Універсітэце, "накапала" ў архівах Вільні і Варшавы столькі гістарычных артэфактаў, якія мы маем у лічбавым варыянце, што не даходзяць рукі, а дакладней, вочы, каб усё гэта прагледзець і зрабіць пэўныя высновы!

Разглядаючы нядаўна мапы глыбоцкіх уладанняў Радзівілаў за 1811 год, а гэта часы Даміініка Радзівіла, вялікага прыхільніка Напалеона Банапарта, заўважыў, што сёння шмат чаго не так. Напрыклад, паміж Бегляцом і Кагальным – адзначаны яшчэ адзін вадаём.

Возера Падлазна – не адзначана зусім! Памыліліся картографы? Ці возера Беразвеч (якое цяпер клічуць Вялікім) і Падлазна былі тады адным возерам? І рэчка падпісана – Беразвіца! Хто прыдумаў Бярозаўку?

Прыцягнуў увагу раён сучаснай вёскі Чачалі. Паводле польскага правапісу вёска

**"Балота вялікае, Субатава называнае, на блізка 2 мілі разлеглае, ад касцёла мілі 2, ляжыць на поўдні. З яго выходзіць рака Ражаніца, плыве каля вёсак глыбоцкіх мілю, у Шарабаях стаў і млын, за 1/2 мілі ў Міхальцах другі млын [на] рацэ". (1 літоўская міля - 7,8 км).**
*Dekanat Połocki w świetle opisów parafii z 1784 roku*

Чачалі падпісана – "Wieś Czeczele", вёска Падгаі – "Wieś Podhayce", г.зн – "Вёска Падгайцы.

А вось возера Чачалёўскае ці Чачалі, як клічуць сёння, падпісана – "Jezioro Rożeń", г.зн – "Возера Рожань". Зрэшты, а як дакладна паставіць націск? Мо й Раж***а***нь?

Дарэчы, як называлася тады рэчка Аржаніца, якая выцякае з возера Чачалёўскага? Знаходзім подпіс далей, у раёне фальфарка Шарабаі, які быў тады за Шунеўцамі на рацэ Аржаніца – "Rzeka Rożenica", г.зн – "рака Рожаніца". І зноў жа пытанне з націскам у слове, а мо – Раж***а***ніца? Ці, усё ж, Ражан***і***ца? Па аналогіі з сённяшнім назовам – Аржан***і***ца? Дарэчы, ці заўважылі: Ражаніца-Аржаніца – першыя дзве літары перастаўленыя месцамі. Ці гэта нейкі мясцовы звычай? Пішуць Дамейка, а кажуць – Адамейка!?

Цікавая назва паселішча – "Las Lichobołoto" – "Лес Ліхабалота"! Як быццам бы не вёска мусіць так называцца, а лес каля вёскі Ліхабалота. Але подпіс на мапе дае адназначнае тлумачэнне: адна крэска ў канцы слова – канец слова, другая – указальнік. Указальнік паказвае на забудову вёскі.Гэта – назва вёскі!

На сённяшняй мапе Глыбоцкага раёна, побач з Гірстунамі, усё яшчэ, адзначаная вёска, а дакладней, хутар – Ліхабалоцце. А дзе тое Ліхое Балота? Хто ведае? Здаецца, там няма ні лесу, як і балота!

У даўнія часы, як аказваецца, было ўсё лагічна! Возера Беразвеч – рэчка Беразвіца, возера Рожань – рэчка Рожаніца! Возера Белае, а вёска за Белым возерам – Забелле. Што сёння возера Белае? Прабачце, Забельскае! Карась срэбны не абарыген, а госць з Далёкага Усходу, яшчэ акунь, які штораз гіне ад замораў. Белае, то бок – чыстае! Лешч, пэўна, раней вадзіўся! Загубілі возера!

Радзівілаўская мапа – нейкі адзін суцэльны трылер. Лес Ліхабалота! Воўчая Яма і ўрочышча Канапляніца – ля Сарок.

Пры нагодзе мы ізноў вернемся да радзівілаўскай мапы 1811 года. Засталося яшчэ шмат чаго неапублікаванага з гісторыі "Miasta Głębokie" – "Горада Глыбокае" часоў Даміініка Радзівіла, які дарэчы, паверыў абяцанням Напалеона адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае і ўступіў у яго Вялікую Армію... Быў цяжка паранены ў "Бітве Народаў" пры Ганаў. Памёр у Францыі.



Вынятка з мапы за 1811 год. У цэнтры адзначана – "Miasto Głębokie" – "Горад Глыбокае". Мястэчка Глыбокае – з касцёлам кармелітаў і парафіяльным касцёлам, адзначана асобна, і не падпісана, бо гэта не ўласнасць Радзівілаў, а кармелітаў.
Паміж Бегляцом і Кагальным – вадаём, праўдападобна, млыновы стаў фальфарка Глыбокае (пазначаны на месцы СШ№1). Плацінай была сённяшняя вуліца Мінская, тады – дарога.

